Таццяна Мушынская

# Мак таўклі камары

Нашым дзеткам



Таццяна Мушынская

# Мак таўклі камары

**Вершы**





Мінск
«Мастацкая літаратура»
2017

# Поні

Для Антона і для Тоні
Каля цырка ходзяць поні.

Не, не коні! Не, не коні!
Гэта родзічы іх — поні.

Капытамі — цок! цок! — поні.
— Пакатацца хочаш, Тоня?

Тоню з брацікам Антонам
Каля цырка возіць поні.

# Мышка і кніжка

Мышка лыжкай кашу ела,
Кашу есці не хацела.

Мама-мышка просіць, просіць!
Лыжку міма мышка носіць.

Міма рота носіць лыжку,
Бо раз-пораз — зірк! — у кніжку.

Пра катоў у мышкі кніжка.
А іх так баіцца мышка!



# Певень

Недарэка, недарэка —
Певень Пеця Кукарэкін!
Ён у бойцы так стараўся,
Без хваста ажно застаўся…



# Хмары

Хмары ў небе ходзяць, ходзяць,
Згоды хмары не знаходзяць.

Пачалі яны сварыцца,
Пачалі яны дражніцца.

Хмара з хмарай неба дзеляць,
Хмара ў хмару громам цэліць.



# Сом і сон

Сом прысніў аднойчы сон,
Што згубіў свой парасон.

Як дарэшты вымак сом,
Дык на сушу выйшаў ён.

Зачапіўся сом вусамі
І гуляць не можа з намі.

# Мак таўклі камары

Камары таўклі ў бары
Мак да ранішняй зары.

Тоненькія ножкі
Танчаць асцярожна.

Глянь! У іх на лапках
Мякенькія тапкі!

Камары мак таўкуць…
Спаць цікаўным не даюць!



# Вожыкі ў футбол гулялі

Вожыкі ў футбол гулялі,
Яблык, быццам мяч, ганялі.
Паганялі колькі часу,
Потым яблык з'елі разам.

# Лось

На паляну перад хатай
Выбег з лесу
Лось рагаты.
І спыніўся на бягу.
— Можа, солі б даў крыху,—
З сумам кажа лесніку,—
І памог як дружбаку?
Бо нічога есці болей
Не магу, браток, без солі.
Хоць разок лізнуць дазволь!
Не расце ж у лесе соль.



# Зойка і сойка

Ягады збірала Зойка.
На сасне сядзела сойка.

Разглядала сойка Зойку,
Разглядала Зойка сойку.

Доўга б Зойка так глядзела.
Сойка ж — пырх! — і паляцела.

# Лясны доктар

Дзяцел дрэвы правярае,
Сухастоіны шукае.
Потым з ранку да начы
Будзе дрэвы ён лячыць.

# Маленькая майстрыха

Шапку, шалік, рукавічкі
Я звязала для сястрычкі.
А цяпер вось буду рада
Я пашыць адзенне брату.



# Лесавік і Вадзянік

Дождж у лесе. Лесавік
Апрануў плашч-дажджавік.

Бо за лета лесавік
Вельмі да цяпла прывык.

Што ж вадзяніку надзець,
Каб у рэчцы не скалець?





# Мядзведзь-глядач

У бярлозе мішкі — тэлевізар,
Доўгаю зімой таму не спіць.
Ад бяссоння мішка не капрызіць,
А мультфільмы дзень і ноч глядзіць.

# Навагоднія сны

Новы год, Новы год!
Зоркі водзяць карагод.

То блішчаць, а то міргаюць,
Танчыць разам запрашаюць.

Скачуць зоркі, весяляцца —
Ноччу дзецям казкі сняцца.



# Крэм

Белы снег, як белы крэм,
Усю ноч зіма ўзбівала.
Торт зіма нам рыхтавала,
Бедавала — крэму мала.

## Сон

Сон схаваўся пад падушкай,
Казкі шэпча мне на вушка.

Ён спакоем атуляе…
Месяц моўчкі засынае.

Засынаюць ціха зоркі
Разам з хлопчыкам Ягоркам.

Літаратурна-мастацкае выданне

НАШЫМ ДЗЕТКАМ

**МУШЫНСКАЯ** Таццяна Міхайлаўна

МАК ТАЎКЛІ КАМАРЫ

*Вершы*

Рэдактар *В. А. Шніп*
Мастацкія рэдактары *Н. В. Барай, М. В. Пракаповіч*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Свірыдзенка*
Стылістычны рэдактар *Ю. В. Тыркіч*




Падпісана да друку 13.11.2017. Фармат $84 \times 90^{1}/_{16}$.
Папера мелаваная. Гарнітура Minion Pro. Афсетны друк.
Умоўн. друк. арк. 2,1. Улік.-выд. арк. 2,84.
Тыраж 1000 экз. Заказ 1346.

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

РУП «БудМедыяПраект».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/42 ад 13.02.2014.
Вул. Харужай, 13, пак. 61, 220123, Мінск.